# НЁМАН

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКА - НАВУКОВЫ МЕСЯЧНІК.

1932. САКАВІК—КРАСАВІК. 1932.

| | | |
|---|---|---|
| Кніжка III | Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Кальварыйская вуліца 53, 2. | Падпіска на год . . 7 зал. На паўгоду . . . 4 зал. На 3 месяцы. . . 2 зал. Адна кніжка . . 70 гр. |




НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА.

## Да волі!

Расчынены вокны... шум места нясецца
Здалёка і нікне за дрэвамі дзесьці,
Мо' ў полі, дзе збожжа рунее, дзе рвецца
Да сонца жаўронак, каб песьняй занесьці
Да неба ўсю радасьць сваю,
У гымне праславіць вясну
Й вясны харашухі вясёлыя дзеці:
Хмурынак — пярынак узлётныя сеці!
Расчынены вокны... У хату ліюцца
Вясьнянага сонца ласкавыя хвалі,
Ці-ж можна над нуднаю працаю гнуцца,
Ці-ж дзіўныя мары вясны не паўсталі,
Салодкай нямоцаю рук не зьвязалі,
Штодзенны, халодны спакой
Ня ўзялі, а новы настрой
Праменны, гарачы прынесьлі здалёка,
Мо' з сініх блакітаў нябачаных вокам?
Расчынены вокны... а вецер нясьмела
У твар падыхае мне сьвежасьцяй мілай,
Калыша фіранкі каронкаю белай,
І кліча, і кліча з нязьведанай сілай

Да сонца, на вольны прастор,
Дзе гукаў калышыцца хор,
Тых гукаў вясеньніх, што слухаць ня можна,
Каб сэрца ня білася моцна, трывожна
Да волі дзікое, лясной....
Ці-ж час працаваці вясной?

Красавік, 1927.

М. МАШАРА.

## Валачобнае.

I.

Сінь ты сінь вясьняная!
Зноў зьвініць ручэй.
Зноў-жа сонцам п'яны я, —
Сэрцам маладзей.
Лашчуцца, шчакочуцца
Цёплыя вятры.
Зноў мне брызгаць хочацца
Соладам вясны.
Слухайце, як рабасьцю
Звоніць высь нябёс.
Сумных дум не кратайце,
Досыць маем слёз.
Прыкрыя, маркотныя
Думкі адганю.
Песьню валачобную
Сёньнека пяю.

II.

Я ў грудзёх штось нашу,
Штось залезла ў душу
Сэрца мучае.
Дарма выліць хачу,
Ты ня мне па плячу,
Боль пявучая.
Мне радзіцца-б вятром,
Ці магутным арлом, —
Песьняй гулкаю
І грымець з пяруном,
Паліць цемру агнём —
Вольнай думкаю.

Скрылы, скрылы — бы мець
Адляцець, не сядзець
Тут за кратамі;
Гучны голас - бы мець
Апяяў-бы асець
Вёску з хатамі.
І вясновы прастор,
Звонкіх струн перабор,
Струн вандроўніка,
А так, кіну да зор
Вун — укрыты дакор
Валачобніка.

III.

Дзень вялікодны,
Слаўлю Хрыста.
(Веру, — нягодны
Гэтага я).
Ўсьцяж Тваей мукі
Прагнець зямля.
Скутые рукі
Ліжыць зара.
Праўды тайніцай
Нас прычасьці.
Цемры крыніцу —
Боль адгані.
Сэрцам збалелым
Ціха малюсь,
За анямелы
Край — Беларусь.

IV.

Адраджэньне наша сьвята,
Наша радасьць — Беларусь.
Будзь-жа нечысьць, ты праклята
Пакахаўшая прымус.

Мы жывём ня дзень будзёны
І жыцьцё у нас — ня сон.
Край любімы, край наш родны
Ўсьцяж мацнее з кожным днём.

Я — паверце —
Веру ў шчасьце на зямлі
І усіх хто чысты сэрцам
Заклікаю да імшы,

Дзе мужык дзіцячай верай
Расьпявае трапары —
— Адчыні нам, Божа, дзьверы
— Доўга сьнёнае пары. —

V.

Ці чуеш, што кажуць мільёны,
З пад знаку стамлёнай
Пагоні.

---

— З працьмы адвечнае няволі,
— І з пусткі нябыцьця
— Мы валачобнікі нядолі
— Ўстаём з пад крыўд і болі—
— Ўстаём мы, — да жыцьця.
— І блеску зьзяючага сьвета,
— Уздым наш ня спыніць
— За нас стагодзьдзі мукаў дзеда,
— Як сонца ясна наша мэта —
— Мы хочым толькі — жыць.

---

Дык слухай, што кажуць мільёны
З пад знаку стамлёнай
Пагоні.

VI.

Ўся моц наша ў веры.
Крычыць хай пятух,
Прызнаёмся сьмела
Да ран Тваіх, мук.
Ізноў хай рагочыць
Няверны Тумаш,
У сьветлые вочы
Ня гляне Юдаш.
— Ня будзь недалужным—
Сьмяецца жыцьцё,
Стрымай-жа хто дужы
Падзеяў скрыло!

VII.

Трактаты,
Нарады,
Загады
Сусьветную згоду куюць.

А з гэтым
Бюджэты,
Банкеты
З укрытаю мэтай растуць...
Трывога
Ад тога,
Да тога
Бы' з ветрам па сьвеце плыве
І сьпее
Надзея
Ў падзеях —
Гартуецца сіла, расьце;
На'т вёска
Із вёскай
Патрошку
З прасонку аб чымсь-то гудзе;
Бязмовы
Нэрвовы
Час новы,
Што-ж ён для Цябе прынясе?

## VIII.

Музыка хваль веснахода
Ў дзень вялікодны малюсь.
Гэй, каму мукі ня шкода
Чуеш, заве Беларусь!
Хто адчунеў і акрэпнуў,
Духам хто моцны і сьмел,
Хто ад цямры не асьлепнуў
Сёньнека бач — яе бель.
Вы дахтары злых хваробаў —
Стада сівых груганоў,
Годзе дыеты вастрогаў,
Годзе смактаць яе кроў!
Сьмела сягнуўшым на сонка
Сеючым зоры ў цямрэ,
Вам... вам палічыць старонка
Я... я-і так у турме.
Лепш памяну вас нярупных
Вашы бязьдзейныя дні,
Ў сэрцах ад сну заскаруплых,
Мо' яшчэ ўспыхнуць агні.
Музыкай хваль веснаходу
Ў дзень вялікодны малюсь.
Расьпяты! — за шчасьце народу,
З крыжа здымі Беларусь!

IX.

Не таю,
Што краду
Адпяянае рэхам жыцьцё:
Я пяю,
Бо душу
Маю паліць жаданьне адно,
Пакуль дух
Не патух
Недасьпелыя думкі кідаць,
Пакуль слух
Ловіць рух
Песьні сеяць на сонную гаць.

X.

Зорыя вочы,
Цёмная сінь,
Доўгія ночы,
Я — вам ня сын.
Радасьцю сэрца
Выпяшчу дух,
Кратайся з мейсца
Сейбіт — пастух.
Хмелем у грудзі
Сей зорны сеў.
Слухайце людзі
Радасьці сьпеў!
Доўга мы спалі, —
Кончыўся сон,
Мала - памалу
Будзіць нас звон.
Звон прабуджэньня
Звоніць язык.
Ў ваўтар адраджэньня
Ўходзіць мужык.

XI.

Гэта ня песьня — імкненьне,
Буйны вясновы прыліў
Веры ў Тваё Адраджэньне,
Ў заўтра ваколіц і ніў.
З шумам лясным на прадвесьні,
З першай грымотай вясны,

З першае жаўрука песьняй
Радасьць нясу вам браты.
Радасьць зьвінячую ў гуках,
Поклічам бурным жыцьця;
Радасьць спазнаную ў муках
Ўздыму над сном нябыцьця.
Стану пад вокнамі зраньня,
Стукацца ў хаты пачну,
Я валачобнік сьвітаньня,
З дум вашых спуджу тугу.

---

Гэта ня песьня — імкненьне
Буйны вясновы прыліў
Веры ў Тваё Адраджэньне,
Ў Заўтра ваколіц і ніў.

XII.

Вось яна радасьць жаданая,
Як-жа яе апяяць?
Ўспыхнулі зоры вясьняныя,
Млосна і квола дрыжаць.
Чую дзяўчаты за гумнамі,
Сеўшы у рад на плату,
Клікаюць песьнямі шумнымі
Старым звычаем вясну.
Ў песьнях да Бога зьвяртаюцца,
Годзюць сьвятых ў парабкі
І над усё — выслаўляюцца
Працы палёвай дзянькі.
Песьня плыве і калышыцца,
Кроў закіпае агнём,
Стану ля крат... буду дыхаць я
Роднага поля вятром.
Слухае поле пявучую
Радасьць прызыву вясны,
Часам дзесь нота балючая
Ўспыхне, — замрэ у цішы.
Сэрца, ах, сэрца хвалюецца
Любы вясновы разгул,
Мне ў ім другое штосьць чуецца,
Накшая радасьць і гул.

XIII.

Чую рзуць пад брамай коні,
Будзіць рог заснулы бор,

Гэй, браточкі, — то-ж Пагоня
Зноў імкнецца у простор.
Шчасьліў, хто бачыць
Пагоні сьлед
Удачай значыць
Яе імпэт.
Яе дарога —
Палёў простор.
Хоць межаў многа,
Лагчын і гор.
За ёй-жа ціха,
Пад звон падкоў, —
Цікуе ліха
І цьма крукоў.
Ды нікнуць страхі,
Туга і сум
Пад творчым знакам
Пявучых дум.
Праз гаўбец стромкі
Сялянскіх стрэх
Нясецца гонкі,
Сталёвы бег.
О, Божа мілы,
К Табе у рай
Пагонь на скрылах
Вязе наш край.

**Астрог „Лукішкі“. 1929 г.**

Я. ВІЛЬКОЎШЧЫК.

## Неабсеяны шнюр.

Позны ўжо час... Навакол зелянее
Руні азімае сельскі абшар,
Толькі адзін шнюр на гонях чарнее,
Што не абсеяў яго гаспадар.
Мо' захварэлі рабочыя рукі,
Можа скаціна падохла яму...
Не! — Каб шчасьліўшымі сталіся ўнукі
Ён, змагар долі, пайшоў у турму.

# «Абое — рабое».

Нядошлы дохтар раз сустрэўшыся з судзьдзёю
Стаў жартам дапякаць; што грозна судзіць ён,
Што у судзьдзі няма спагаду над бядою,
Што людзі шлюць яму з усіх бакоў праклён.
Тады судзьдзя ў вадказ да дохтара гаворыць:
— „Не хваляць і цябе — чуваць так навакол —
Як пападзецца з іх да рук тваіх каторы,
Дык хутка адашлеш на тры аршыны ў дол“.
Чырвоны, як бурак, дапяты да жывога,
Так дохтар адказаў на гэты камплімэнт:
— „Прысуд судзьдзі якраз — зваротная дарога—
На тры аршыны ўверх ідзе твой пацыент!“.



П. Сяргіевіч. Рысунак.

Г. Л.

# Хараство.

[Поэма прозай].

Хараство — гэта сіла й магутнасьць! Гэта суцэльнасьць у мностве; суцэльнасьць, складаючая адначасна згодную і гарманійную часьць Вялікае Цэласьці, званае Сусьветам.

І дзеля таго, назіраючы гэтае Хараство, мы чуем Сусьвет, мы чуем Яго вялізарнасьць і магутнасьць. Шчасьлівы той, хто гэтак адчувае.

Любячы Хараство — мы ідзем да таго, каб нашыя дзеяньні былі гармонійнаю часьцяй Сусьвету, мы імкнемся да Дабра, бо Дабро — гэта Хараство ў дзеяньні.

Любячы Хараство — мы ідзем да зразуменьня, да Праўды, бо Праўда — гэта зразумелае і панятае Хараство, Хараство абнятае ў думцы, абхопленае думкай.

Гэткае Хараство — гэта супакой, гэта зразуменьне істоты жыцьця й сьмерці. А сьмерць ёсьць збаўленьнем для душы, каторая ўбачыла Вечнае Хараство.

Бо перад намі маўклівы, тайнічны Сусьвет... Ціхі й вялізарны нават для думкі, для мысьлі... без пачатку і канчатку...

Углядаючыся ў Яго, адчуваем супакойны тахт Бясчасу. — Здаецца нам, што чуем матыў, мэлёдыю, каторую граюць зоры, мільёны зор і зорак у сваім гармонійным бегу ці ходзе... У гэтай мэлёдыі нямаш ні радасьці, ні суму, ні болю... Ёсьць толькі супакой, заўсёды роўны сабе без пачатку супакой...

Цяга й кірунак чалавека выказуецца ў прызнаньні боскай Суцэльнасьці Сусьвету — ўсестварэньня, у пажаданьні вякуістай Праўды, да каторай імкнецца і каторую пажадаюць усе глыбейшыя душы.

У Сусьвеце ёсьць нязьменны парадак, вечная Суцэльнасьць зьявішчаў, дзіўная лучнасьць у здаючымся хаосе ці беспарадку.

Сьвятло, што мы бачым, каторае даходзіць да нашых вачоў з найдалёкшых зораў, калі мы ў пагодную ноч з прыемнай цікавасьцю разглядаем неба, — гэта тая самая энэргія, якая выражаецца нашым собскім бытам. — Гэта тое, што малы чалавек і вялізарнае сонейка — частка Аднае Вялікае Цэласьці.

Гэтае пачуцьцё лучнасьці з Сусьветам, гэтае знаходжваньне сябе ў сілах прыроды, ува ўсім, што варушыцца й жыве — ёсьць гэніяльнасьць Чалавека!

А сьмерць будзе збаўленьнем для яго Душы, каторая ўбачыла Вечнае Хараство ў Цэлым і Вялізарным Сусьвеце, Суцэльным у Мностве.

# Гісторыя беларускага мастацтва.

## Курганныя старажытнасьці Беларусі.

### I.

### Агульны характар беларускае курганнае культуры. Вонкавыя сувязі Беларусі ў курганную эпоху і жаролы чужаземных уплываў. Хронолёгія беларускіх архэолёгічных памяткаў.

(Гл. № 2 „Нёмна“).

Беларусь рабілася, такім спосабам, важным цэнтрам культурна-мастацкіх уплываў на фінскія краі волжскага басэйну, аб чым ясна сьведчыць поўная тожсамасьць шмат якіх знаходкаў у беларускіх і ў так званых „мяранскіх“ магільніках, знаходкаў выразна заходняга паходжаньня.

Ведама — адваротнага ўплыву гэтых „мяранскіх“ краінаў на Беларусь ня было: пераход самых вырабаў, як і мастацкіх хвормаў адбываўся толькі ў бок ніжэйшае культуры.

Культурна-мастацкі ўплыў на Беларусь пачаўся з Усходу толькі ад часу, калі гандлёвы шлях працярэблены быў да далёкіх усходніх краінаў — з значна вышшымі, чымся ў Беларусаў хвормамі матар'яльнае культуры і мастацкага разьвіцьця, як Пэрсія, Сырыя, Арабія. Там трэба шукаць крыніцаў тых тыпаў і хвормаў, якія так задзіўляюць нас сваёй неспадзяванасьцяй у магільніках і скарбах Беларускай тэрыторыі: Юхнаўскім, Нэвельскім, Гнёздаўскім, каля Піліпкі ў Горадзеншчыне і інш.

Трэба адзначыць, што гандлёвыя зносіны з Усходам злучалі пераважна ўсходнюю частку Беларускай тэрыторыі— з **цэнтрам гэтага гандлю ў Гнёздаве**. Але трэба ведаць, што ўсходнія ў сваей аснове орнамэнтальныя формы (не самыя прадметы) маглі заносіцца на Беларускую тэрыторыю—яшчэ задоўга да пачатку яе сталых гандлёвых зносінаў з Ўсходам — і іншым шляхом — з Заходу — праз ювэлірнае мастацтва старажытнага Рыму, на якое аказала яшчэ значна раней нямалы ўплыў мастацтва арабска-сірыйскага Ўсходу.

Што гэты гандаль з Заходам адчуваўся навет на ўсходзе Беларускай тэрыторыі, сьведчаць знойдзеныя ў Гнёздаўскім магільніку розныя тыпы пражак, плечавых фібулаў, бранзалетаў, эмалевых падвесак і т. д. — выразна рымскага паходжаньня. Гэтыя рымскія ўплывы йшлі, як ведама, двумя галоўнымі шляхамі: першы — праз Дзьвіну і Прыбалтыку, другі — праз Вэнгрыю і Прыдунайскія землі. З гэтых ўсходніх хвормаў, якія прыйшлі ў Беларусь кружным шляхом праз ювэлірнае мастацтва Заходу (Рыму), ведамы— так зван. „пэрскія крыжы" ў беларускіх эмалях, некаторыя арабска-сырыйскія хвормы, як сырыйскія завушніцы і інш. Такім чынам — Беларусь у ведамы гістарычны пэрыод як быццам замыкала сабой кола кругавароту гэтых мастацкіх уплываў, якія разыходзіліся з арабска-сырыйскага Ўсходу на Заход двумя вялікімі гістарычна - культурнымі гандлёвымі шляхамі.

Асаблівая перавага сырыйскіх хвормаў у курганных знаходках Беларусі, прыпадае якраз на X век, на так званую **„Гнёздаўскую эпоху"**.

Гэтая эпоха Гнёздава мае вельмі важнае значэньне для „дагістарычнай гісторыі" Беларусі, як **адзіны цьвёрда датаваны мамэнт яе стылістычнага разьвіцьця ў курганны пэрыод**. Ведамы вучоны Л. Нідэрле прапануе навет падзел **усіх славянскіх** старажытнасьцяў на да-Гнёздаўскую і пасьля-Гнёздаўскую эпохі. Але-ж на аднэй гэтай агульнай схеме ня можа быць, зразумела-ж, пабудавана дакладная іх гісторыя.

Такім чынам, вельмі важнае пытаньне аб хронолёгіі беларускіх архэолёгічных памяткаў — пры сучасным стане навукі — ня можа быць вырашана дакладна.

Бо-ж ня толькі для хронолёгічнага датаваньня скарбаў ці паасобных знаходкаў, але навет для датаваньня кургаоў няма дагэтуль ніякіх пэўных крытэрыяў. Розьніца ў тыпах пахаваньня, якая яшчэ нядаўна лічылася бясспрэчнай хронолёгічнай адзнакай, страціла цяпер блізу ўсялякае значэньне. Часам больш падставаў для датаваньня дае курганны інвэнтар. Але для беларускіх кургаоў пытаньне ўскладняецца тым, што **самы працяг курганнага пэрыоду ў Беларусі ня можа быць сьцісла датаваны**. Як ведама, умоўна вяжуць яго канец з прыняцьцем хрысьціянства. Але ў Беларусі — пры слабым тэмпе хрысьціянізацыі яе насяленьня — курганныя пахаваньні практыкаваліся яшчэ доўга і ў хрысьціянскую эпоху.

Таму, з аднаго боку, самы факт адсутнасьці прадметаў хрысьціянскага культу ў кургане не сцьвярджаў яшчэ яго паходжаньня з дахрысьціянскай эпохі; з другога боку — гэ-

тыя прадметы маглі быць занесены ў край з Заходу ў дахрысьціянскую пару, **як прадметы дэкарацыйныя**. Такі характар якраз і маюць знаходкі ў мяранскіх курганох, а ў Беларусі — ведамыя знаходкі Рагачоўскага раёну, крыжыкі, знойдзеныя ў Драгічыне, у Горадзеншчыне і інш.

Найбольш важным хронолёгічным крытэрыям зьяўляюцца, як ведама, **манэты**, калі побач з імі ў курганох знойдзены і іншыя прадметы.

Асабліва многа ў беларускіх знаходках **усходніх манэтаў** — доказ інтэнсыўнага гандлю Беларусі з Усходам.

**Орнамэнтыка нэолітычнае эпохі**. Першыя спробы прымітыўнага, але ўжо мастацкага апрацаваньня матар'ялу назіраем наагул у канцы эпохі паліраванага камяня. Орнамэнтыка паліраваных рагавых і каменных сякераў, знойдзеных на тэрыторыі сучаснай Беларусі, адзначаецца вельмі простымі лінейнымі ўзорамі.

Болей разнастайнасьці прадстаўляе орнамэнтыка на вырабах нэолітычнае керамікі. Найпрасьцейшы рысунак — дзьве раўналежныя лініі, якімі абведзены край судзіны. У далейшым разьвіцьцю рысунка — лініі гэтыя ламаюцца на кавалкі ды зварочуюцца адна да аднае наўскос, ці стоцьна, творачы вуглы, крыжыкі і д. т. п. Асабліва характэрны рысунак так зван. „капыцікаў“, што захаваўся дагэтуль, відаць, з дагістарычных часоў на сучасных вясковых паяскох беларускіх. Далей рысунак робіцца балей складаны, зьяўляюцца просталінейныя геомэтрычныя **фігуры** — трыкутнікаў, ромбаў, прастакутнікаў.

Далейшую эволюцыю даюць рысункі **крывалінейныя**: у хвормы хвалявых лініяў, колцаў, эліпсаў, сярпоў, паўмесяцаў і да г. п.

Блізкая падобнасьць гэтых, пераважна прасталінейных, орнамэнтальных мотываў да рысункаў на нэолітычных памятках Скандынавіі дый на прыбалтыцкіх знаходках пазьнейшае архэологічнае эпохі паказуе хіба на сувязі, што лучылі ў тыя часы нашу тэрыторыю з Скандынавіяй — пэўне-ж праз Прыбалтыцкія краіны.

**Эмалевыя вырабы VI—VIII стаг.** Далей — сярод курганных знаходак Беларусі — ідзе па чарзе група найстарэйшых **бронзавых прадметаў, прыбраных выемчатай эмаляй.** Гэтыя „эмалі“ розьняцца ад усіх іншых нашых знаходак зусім асаблівым стылям; трапляюцца яны па Прыпяці, Нёмне, таксама — у Віленшчыне й Барысаўшчыне.

Найболей характэрным дый надзвычайна харошым узорам гэтага роду вырабаў зьяўляюцца слаўныя **падвескі** — з курганоў каля вёскі Мяжаны Сьвянцянскага пав.

Апрача падвесак, ладная лічба гэтых эмалевых вырабаў сабрана ў Віл. Музэі — з розных мясцовасьцяў Беларусі. Сярод іх — бронзавыя колцы-пражачкі прарэзнае хвормы, блізкае да мяжанскіх падвесак; так зван. „дыадэмы", вялікія надзвычайна харошыя ланцугі (ведамыя ў архэологіі пад супярэчным назовам „віленскае аброці") — з такімі-ж прарэзнымі колцамі і ўсходнімі крыжамі, прыбранымі эмаляй. Апрача гэтых бясспрэчна **ўсходняга тыпу** эмалевых вырабаў, у курганнай старасьветчыне Беларусі асобную групу ствараюць бронзавыя-ж, прыбраныя эмаляй вырабы **заходняга тыпу**, падобныя да рымскіх фібулаў якіх нашыя вырабы зьяўляюцца самастойным перапрацаваньнем.

Гэтыя так зван. (беспадстаўна) «аланскія» эмалі — шырака пашыраны на ўсім прасторы паміж Балтыцкім узьбярэжжам, Волгай, Каўказам, узьбярэжжам Чорнага мора і нізам Віслы. Паходжаньне гэтых эмаляў выясьняецца розна.

Найболей пэўным аднак зьяўляецца пагляд, што, падчыркуючы **ведамую арыгінальнасьць, нязвычайнасьць хвормаў** гэтых вырабаў ды зварочуючы ўвагу на тое, што месцам іх знаходак зьяўляюцца пераважна Віленшчына і Полацкая зямля, знаходзіць магчымым **прызнаць іх мясцовае паходжаньне, бачыць у іх самабытнае зьявішча раньняй беларускай культуры** — пад уплывам так зван. „барбарскіх перапрацаваньняў" рымскіх ювэлірных хворм (вылучаючы толькі ўсялякае пасярэдніцтва Бізантыі).

Гэтыя выемчатыя эмалі трапляюцца пераважна ў трох раёнах: нёманскім, вокскім і дняпроўскім. Нёманскі раён, ахапляючы шырокі прастор між Нёмнам і Дзьвіной, а асабліва — курганы Віленшчыны, Віцебшчыны й Меншчыны — вельмі багаты гэтымі знаходкамі. Ладная колькасьць іх знойдзена ў усходняй Беларусі ў вокскім раёне — **на самай этнографічнай мяжы з Маскоўшчынаю** (ў Масальскім пав. Калускае губ).

Такім парадкам указаныя тутака раёны й павінны лічыцца месцамі пераважнага вырабу гэтых эмаляў, прычым **нёманскі, найболей беларускі, дае найболей разнастайныя тыпы найлепшыя па тэхніцы вырабы, характэрныя й тым, што яны як быццам раўнаважылі на сябе ўплывы ўсходніх і заходніх хвормаў.**

**Нашыйныя прыборы: грыўні з падвескамі.** Наступная група — яшчэ пазьнейшых — курганных прадметаў Беларусі — у большасьці сваёй складаецца з так званых „асабовых прыбораў", прадметаў пераважна жаночага ўбору. Першае месца сярод гэтых прадметаў займаюць па разнастайнасьці хвормаў ды па агульнай пашыранасьці — брон-

завыя, радзей сярэбраныя грыўні, ужываныя, як нашыйныя, галаўныя ды паясныя прыборы. Балей пашыраны тып — можа, пазьнейшае пары, нашыйных абручоў прадстаўляюць так зв. „пласьцінчатыя грыўні“. Гэта — вузкія бронзавыя абручы, на якія густа навешаны падвескі з ліставога мэталю. Гэтая хворма сустракаецца на даволі шырокім курганным прасторы — ад Прыбалтыкі да басэйнаў Волгі й Дону, зьмяняючыся ў дэталях свае конструкцыі, асабліва ў падвесках, на Ўсходзе — больш лічных, вузейшых, часта трубчатай хвормы. Аднак—на беларускай тэрыторыі (як і ў Прыбалтыцы) ўтварыўся нейкі асобны варыянт, адным з найлепшых узораў якога зьяўляюцца абручы з Лынтупскіх курганоў Сьвянцянскага пав. Складаная конструкцыя гэтых лынтупскіх абручоў — вельмі орыгінальная, ня сустракае сабе поўных аналёгіяў у іншых прыборах таго-ж тыпу.

Блізкія да падобных прадметаў прыбалтыцкіх археолёгічных знаходак, гэтыя хвормы ўсходзяць да нейкага супольнага першаўзору, якога хутчэй усяго трэба шукаць на Ўсходзе, як першаўзору грыўні наагул. Усходнія першаўзоры аднак-жа на нашай тэрыторыі ператвараліся ў орыгінальныя, як у вагульных хвормах так сама і ў дэталях орнамэнту, варыянты. Добра захаваўшыяся ўзоры гэтых пласьцінчатых грыўняў ёсьць у Віленскім Музэі — з колекцыі Э. Тышкевіча (сабраны ў Барысаўшчыне), таксама — у знаходках з Віцебшчыны.

Асабліва цікаўная хворма пласьцінчатай грыўні, прыбраная падвескамі ў хворме бубенчыкаў. Бубенчыкі, наагул званкі, у старадаўняй паганскай Літве, як сьведчыць літоўская этнографія, зьяўляліся сымболем дзявоцкае нявіннасьці. Дык, дапусьціўшы разам з проф. Сьпіцынам супольнасьць між літоўскай і беларускай (тэрытор'яльна) культурай курганнай эпохі (ў VI—VIII ст.), можна было-б лічыць гэтыя грыўні з бубенчыкамі спэцыяльна дзявоцкім уборам. Але-ж гэтыя бубенчыкі на грыўнях пашыраны па ўсей тэрыторыі Беларусі, дый якраз найболей у яе цэнтральнай часьці, як прыкл. — у Меншчыне, Барысаўшчыне, Мозыршчыне, а не ў часьці, сумежнай з Літвою. Пашырэньне бубенчыкаў як на ўсходзе, так і на заходзе, у розных конструкцыях прыбораў ня толькі жаноцкіх, але й мужчынскіх, сьведчыць аб шырокім пашырэньню гэтага прыбору ў тыя часы сярод розных плямёнаў. Бубенчыкі ды званкі шырака ўжываліся ў розных народаў у рэлігійных абрадах, як талісманы; у позьнім Рыме гралі ведамую ролю ў вясельным уборы маладой (можа — з гэтым у сувязі й літоўскі сымбалізм). Але ў Рыме гэты звычай меў, хіба-ж, усходняе паходжаньне.

Дзеля таго бубенчыкі й у беларускіх прыборах маглі зьявіцца, як з Заходу, таксама й беспасярэдне з Усходу, уплывы якога йшлі, як сказана раней, транзытам праз Беларусь далей на заход — у Літву й Прыбалтыку. Як бы ні было, **але бубенчыкі ўжо з тае пары сталі ў Беларусі аднэй з найболей любленых прыбораў.**

Варта адзначыць і характэрную орнамэнтыку гэтых грыўняў — блізу што на ўсім зьверсе гэтае хвормы. Орнамэнтыка тутака — таго самага простага лінейнага рысунку чыстага геомэтрычнага характару, **якi дагэтуль захаваўся ў сучаснай народнай орнамэнтацыі („капыцікі" і д. г. п.), што цьвердзіць аб традыцыйнай сталасьці народных орнамэнтальных мотываў.**

Усе гэтыя мотывы шырака ведамы ў сучасным беларускім ткацтве, пераважна ў паяскох, дзе яны, магчыма, й зьяўляюцца вынікамі старадаўніх дэкорацыйных традыцыяў, карэньне якіх схавана яшчэ ў глыбіні курганнае эпохі.

**Нашыйныя, галаўныя й паясныя прыборы: грыўні без падвесак.** Апісаныя грыўні з падвескамі групуюцца пераважна ў паўночна-заходніх і заходніх частках беларускае тэрыторыі. На рэшце апошняе колькасную перавагу мае другі тып грыўняў — **без падвескаў.**

Гэты беспадвесачны тып грыўняў некаторыя вучоныя (Аспэлін) лічыць спэцыяльнай прыналежнасьцю **лацінскае** старасьвеччыны. Але крыніцу паходжаньня гэтага тыпу, як і ўсіх тыпаў грыўняў наагул трэба шукаць на Ўсходзе — у арабскім ці сырыйскім дэкорацыйным мастацтве, узоры якога йшлі да нас, як мы ведаем, шляхам гандлёвых зносінаў, выклікаючы мясцовыя перайманьні ды перапрацаваньні.

Гладкія,—зробленыя з аднаго дроту, ці каванага прута, з рознымі прыборамі, або складзеныя з некалькіх дратоў, сплеценыя на манер касы, ці зьвітыя як вяроўка, ці то спрошчаныя тыпы пласьцінчатыя, як у папярэднім аддзеле, толькі без падвесак, роўныя, ці з пашырэньнем, гэтыя грыўні маюць разнастайныя варыянты і вялікае пашырэньне ў курганным басэйне сучаснае этнографічнае Беларусі.

Большасьць беларускіх грыўняў — вялікшага разьмеру, дык ясна, што яны не маглі ўжывацца, як нашыйныя прыборы, але насіліся хутчэй як паясы. Што датычыць грыўняў з пашырэньнем, дык яны, можна думаць, насіліся на галаве, як дыядэмы.

Іншым, больш пашыраным тыпам, зьяўляюцца **гладкія** грыўні аздобленыя сьпіральнай абвіўкай з асобнага тонкага дроту — пераважна на пярэдніх канцох.

Ведама-ж — ня ўсе тыпы й узоры грыўняў могуць лічыцца мясцовага паходжаньня. Ня кажучы аб іх супольных Усходніх першаўзорах, некаторыя з іх прыбліжаюцца да прадметаў скандынаўскага курганнага інвэнтару, як хвормаю таксама й орнамэнтам. Але цэлы сьцяг тыпаў беларускіх грыўняў ня мае сабе блізу што ніякіх аналёгіяў сярод знаходкаў іншых краёў, дык яны могуць лічыцца собскімі мясцовымі варыянтамі..

Што датычыць хронолёгіі розных тыпаў грыўняў, дык ранейшымі трэба лічыць наагул бронзавыя, а з іх мяжанскія — найболей старадаўнімі, як знойдзеныя ў гэтых курганох побач з эмалямі, якія, як нам ужо ведама, трэба аднесьці да VI—VIII стаг. Сярэбраныя грыўні ўжо самым сваім матар'ялам паказываюць на пазьнейшае паходжаньне.

Хвормы гэтай (сярэбранай) грыўні аднак няма ўжо ані ў Люцынскім ані ў Гнёздаўскім магільніках, гэта значыць — сярод прадметаў IX—X ст.ст. Але вось — у X ст. раптоўна наплываюць у нашую тэрыторыю зусім новыя, органічна чужыя ёй тыпы, быццам хваляй іншай значна вышэйшай культуры, але — з рысай здалікатнелага заняпаду. Месца ранейшых простых, крыху суровых грыўняў займаюць гэтыя тэхнічна складаныя гожыя, багата прыбраныя, з ценкімі рысункамі, хвормы, так характэрныя для лепшых твораў усходняга ювэлірнага мастацтва: беспасярэдняе арабскае ці сырыйскае паходжаньне гэтых вырабаў не падлягае хіба-ж сумліву. Характэрнымі ўзорамі гэтага тыпу зьяўляюцца нашыйныя абручы з Гнёздаўскага скарбу — з характэрным для таго часу прыборам кантовымі пацеркамі й галоўкамі; аналёгічныя тыпы знойдзены ў Невэльскім скарбе, таксама— ў вёсцы Даліне, Юхнаўскага пав. Смаленшчыны. Гнёздаўскія грыўні даюць цьвёрдыя падставы для хронолёгіі гэтага тыпу: знойдзеныя разам з імі ў скарбе саманідскія манэты 908—959 г.г. дазваляюць датаваць усе прадметы скарбу не раней, як канцом X ст., з другога боку — ладная лічба знойдзеных у тым-жа скарбе ўсходніх дыргэмаў — пры малой лічбе іншых манэтаў — указывае на асаблівае ажыўленьне гандлёвых зносінаў з Усходам — ведама-ж волскім шляхам — чым дасканальна выясьняецца іх арабскае ці сырыйскае паходжаньне.

Мы ведаем, што ўжо ладне раней з Усходу ў Беларусь ішлі мастацкія ўплывы на яе мясцовую вытворчасьць. Ніколі аднак гэтыя ўплывы ня выяўляліся ў такіх яўных стылістычных хвормах, як якраз у X ст.

---

**Галаўныя, нагрудныя, паясныя й ручныя прыборы: павязкі, ланцугі, фібулы, пражкі, паясы й бранзалеты.** Нашыйныя грыўні ў ведамых, рэдкіх, прыпадках ужываліся як галаўныя ўборы. Ёсьць падставы думаць, што галаўныя грыўні гралі часам ролю пахавальнага ўбору.

Сярод мала наагул пашыраных у белар. курганнай старасьвеччыне галаўных прыбораў для штодзеннага ўжытку, трэба адзначыць даволі прымітыўныя хвормы так званых **„ісочных колцаў" завушніц**, што складаюцца з драцяных абручоў з пацеркамі—пераважна чужаземнага паходжаньня.

Асобную групу складаюць **галаўныя павязкі**, пашыраныя пераважна ў Віцебшчыне, часткова — у Меншчыне, якія можа зьяўляюўцца прадметамі латыскай старасьвеччыны, паколькі падобныя хвормы аздоб захаваліся ў сучаснай латыскай народнай вопратцы.

Наступным родам галаўных, нашыйных, плечавых або нагрудных убораў зьяўляюцца рознага тыпу ланцугі — у злучэньні з рознымі пражкамі, фібуламі, ланцужкамі, пласьцінкамі, бубенчыкамі, дый масыўнымі прыбранымі рознай хвормы галаўнымі шпількамі, якімі ўбор прымацоўваўся да валасоў ці да адзежы.

Ладную ролю ў беларускай старасьвеччыне граюць так зван. **„фібулы"**. Спачатным назначэньнем рымскай фібулы было, як ведама, служыць плечавым гаплікам у лёгкай верхняй адзежы наўзор плашча; у пазьнейшыя часы фібулы ў Рыме дасталі й іншыя прызначэньні, дэкарацыйнага прыбору або гонаровае адзнакі — пераважна на вопратцы людзёў ваеннага стану.

Фібулы займаюць першараднае месца ў старасьвеччыне заходняе Эўропы. У Беларускай старасьвеччыне фібулы ня граюць такой важнай ролі, але ў прыраўнаньню да іншых усходня-славянскіх краёў фібулы ў Беларусі сустракаюцца шмат часьцей дый у вялікай разнастайнасьці хвормаў, маючы, побач з пражкамі і плечавымі ланцугамі сваю ролю ў вадзежы — ці то як прымацавальная прылада, ці то як самастойны прыбор. У сувязі з гэтым даволі ладным пашырэньнем навет мясцовага вырабу фібулаў у Беларусі — прыблізу што поўнай іх адсутнасьці ў краі — на ўсход ад беларуска-расейскае этнографічнае мяжы насоўваецца думка аб існаваўшай дзякуючы ўплывам Заходу ладнай розьніцы тыпу адзежы жыхара Беларусі ад тыпаў усходне-славянскіх.

Вялікай колькасьцю знаходак чыста заходніх блізкіх да рымскага першаўзору фібул (так зван. „арбалетных") адзначаецца Віленшчына ды Меншчына.

Другі тып фібулаў ужо паўночна-заходняга — Скандынаўска-балтыцкага паходжаньня, гэта — так зван. „чашачныя“ фібулы, што трапляюцца нярэдка ў Прыладажжу, у Фінляндыі, у прыбалтыцкіх краёх, а ў Беларусі — шмат радзей, дый то толькі на шляху нарманскага гандлю, (галоўна ў Гнездаве і інш.).

Далейшую вельмі лічную групу беларускіх курганных знаходкаў прадстаўляюць рознага тыпу „пражкі“, што былі здаўна прадметам шырокага ўжытку, на беларускай тэрыторыі. Пражкі ўжываліся аналёгічна фібулам, часта ў злучэньні з плечавымі і нагруднымі ланцугамі. Іншыя тыпы пражак ужываліся для зашпіляньня паясоў — у спалучэньні з бляшкамі, якімі прыбіралася раменная частка прадмету. Трэба адзначыць, разнастайную, рознага паходжаньня орнамэнтыку гэтых паясных пражак і бляшак. На гэтых пражках і бляшках мы знаходзім як **чыста заходнія** хвормы й орнамэнты, так і **паўночна-заходнія** — скандынаўскія пляцёнкі, таксама бясспрэчна **ўсходнія** тыпы рысунка з фігурамі жывёлы, драконаў, расьліннымі ці геомэтрычнымі матывамі.

На гэтых паясных бляшках такім парадкам быццам ужо ў тыя часы зафіксавана, так сказаць, **асноўная формула ды характэрыстыка Беларусі**, як вузлавога пункту ў сыстэме тагачасных гандлёвых шляхоў і зносінаў, як краю скрыжаваньня заходніх і ўсходніх уплываў.

Урэшце трэба адзначыць яшчэ адну катэгорыю курганных прыбораў, маючых вялікае пашырэньне ды вялікую колькасную ролю ў курганнай старасьвеччыне Беларусі. Гэта — ручныя прыборы: абручыкі, пярсьцёнкі, налокатнікі й бранзалеты — адна з найболей частых прыбораў як у мужчынскіх таксама і ў жаноцкіх пахаваньнях.

Сярод бранзалетаў найболей арыгінальны тып, гэта так зван. **шчытападобныя бранзалеты**.

Іншы тып — **падковападобныя бранзалеты** — з багатым строга геомэтрычным арнамэнтам — усходняга ўзору. Яшчэ больш пашыраны іншы тып — **пласьцінчатыя** вузкія бранзалеты, таксама ўсходняга паходжаньня — ня толькі па сваёй орнамэнтыцы, але й па агульнай хворме, з зьвярынымі матывамі.

Усе пералічаныя тыпы бранзалетаў у нашай старасьвеччыне, як бачым, выразна зьвязаныя з Усходам, як у сваіх хвормах таксама й у орнамэнтыцы. Заходняе паходжаньне, у частцы рымскае, маюць досыць рэдкія бранзалеты **сьпіральныя**, пашыраныя ў пахаваньнях зах.-паўночн. Беларусі.

Ручныя прыборы ў Беларусі былі пашыраны пераважна ў да-гнёздаўскую эпоху. У Гнёздаўскім магільніку знойдзена іх усяго некалькі штук.

Трэба напасьледак адзначыць яшчэ іншы пазьнейшы в. рэдкі тып бранзалета з ліставога серабра з багатым выбіўным ці граверным орнамэнтам з фігурамі птушак і жывёлы ў перамежку з рысункамі трылісьнікаў і лісьця аканта. Гэты тып бранзалетаў ладне пашыраны ў кіяўскіх, чарнігаўскіх і арлоўскіх скарбах, быў толькі ў вадным месцу — у Магілеўшчыне — знойдзены ў Беларусі. Ясна, што ён, трапіў да нас прыпадковым заносам ад суседзяў. Агульная хворма ды орнамэнт гэты нарукаўнікаў паказывае ясна іх **бізантыцкае паходжаньне.** Гэта — адзін з вельмі нялічных прыкладаў бізантыцкае хвормы ў беларускай старасьвеччыне, які павінен быць датаваны не раней XI стаг.



П. С. Лінарыт.

М. ШКЯЛЁНАК.

# Копныя суды ў Беларусі.

Старадаўнае беларускае права пераказала нам шмат сваіх установаў, што згулялі ў праўным жыцьці беларускага народу вялікую ролю. Аднэй з гэтакіх установаў былі *копныя або грамадзкія суды.*

Гэта цікавая судовая ўстанова яшчэ дагэтуль не дачакалася свайго дасьледаваньня, хоць ужо ёсьць шмат датычучых яе матар'ялаў, каторыя дазваляюць ня толькі рэстаўраваць гэту інстытуцыю навет у яе дэталях, але і выясьніць яе паходжаньне. Абзнаямленьне з копнымі судамі мае важнае значэньне ня толькі гістарычнае, але й практычнае, гэта з наступных прычынаў.

1) Пазнаньне характару нашае сучаснае культуры немагчыма без пазнаньня яе гісторыі, а гэта дзеля таго, што культурны прогрэс ня ведае раптоўных пераскокаў, а толькі шлях памальнае эволюцыі. Дзеля таго выясьненьне характару беларускае культуры ў мінуўшчыні яе складовых часьцяў і дзейнікаў, што выклікалі яе разьвіцьцё ці заняпад, ёсьць пытаньнем першараднае вагі. Копныя суды зьяўляюцца адным з найяскравейшых довадаў творчае здольнасьці беларускага народу ў будаўніцтве собскае культуры і яе жывучасьці. Як пабачым ніжэй, копныя суды былі пашыраныя толькі ў этнаграфічнай Беларусі і дзеля іх паходжаньня й структуры прадстаўлялі зьявішча ў беларускай культуры тыпова самароднае;

2) Копныя суды былі ў поўным сэнсе гэтага слова судамі народнымі. Мы ведаем, што шмат якія грамадзкія ці палітычныя арганізацыі цяпер у праграмах сваіх зьмяшчаюць параграфы аб народных судох, дасягненьне якіх уважаюць за адзін з сваіх пастулятаў. Не ўваходзячы ў ацэнку сэнсу гэтага імкненьня, трэба сьцьвярдзіць, што а ні цяперашняя практыка а ні тэорыя не даюць навет прыблізна абраза гэтых „народных" судоў. Копныя суды як суды тыпова народныя з гэтага гледзішча прадстаўляюць вялікую цікаўнасьць.

3) Як ведама беларускі народ цяпер складаецца 90 проц. з сялянства. Пазнаньне культуры сялянскае і яе будаўніцтва мае для нас найвялікшае значэньне. Але кожнае культурнае зьявішча, дзеля свайго зразуменьня, павінна быць разгледжана ў гістарычным разрэзе. Копныя суды былі ня толькі судамі народнымі але й *сялянскімі*. Дзеля гэтага

абзнаямленьне з імі раскрые нам праўны быт, пагляды, псыхіку нашага сялянства на працягу даўгіх вякоў яго гісторыі.

Копныя суды згулялі вялізарную ролю ў жыцьцю беларускага народу наўперад дзеля таго, што на працягу стагодзьдзяў былі адзіным органам справядлівасьці ў справах каральных. Можна бяз ніякае абмылкі сказаць, што роля іх у гэтым сэнсе раўнялася ролі сяньняшніх акружных каральных судоў і судоў прысяжных, дзе яны існуюць. З другога боку копныя суды, па характару іх арганізацыі й судаводзтва, зьяўляюцца ўстановай несустраканай ня толькі ў праве нашых беспасярэдніх суседзяў — Палякаў, Маскоўцаў, Ліцьвіноў (за выняткам Украінцаў аб чым будзе ніжэй), але і ў праве народаў Эўропы. З гэтага гледзішча копныя суды зьяўляюцца свайго роду ўнікатам, уласьцівым толькі беларускаму праву. Важная роля, каторую згулялі копныя суды ў праўным жыцьцю беларускага народу і іх арыгінальнасьць зрабілі тое, што, калі ў 1872 г. Віленская Археографічная Камісія выдала VI том старадаўных беларускіх дакумэнтаў, дык ужо тыя нямногія акты аб копных судох, каторыя былі зьмешчаны ў гэтым томе, гэтак зацікавілі менаваную камісію, што яна пастанавіла выбраць з усіх былых у Віленскім Цэнтральным Архіве актавых кнігаў старадаўных беларускіх гродзкіх судоў *) адумысьля дакумэнты, датычучыя копных судоў, каб кінуць сьвятло на гэтую установу. Гэтак паўстаў, па некалькіх гадох працы XVIII том старых беларускіх актаў, датычучых выключна копных судоў, выдадзены ў Вільні ў 1891 г. Факт, што Віленская Археографічная Камісія шукала актаў аб копных судох у кнігах гродзкіх судоў, выясьняецца тым, што пастановы копных судоў упісываліся ад часу пашырэньня ў Беларусі гродзкіх судоў як судоў каральных у актавыя кнігі апошніх. Дзякуючы-ж таму, што гродзкія суды ў Беларусі зьявіліся адносна позна, бо ў палове XVI ст., мы ня маем, з нямногімі выняткамі, дакумэнтаў аб копных судох да паловы XVI ст. бо судаводзтва капы адбывалася вусна. Не азначае аднак гэта, быццам рэстаўраваныя на аснове дакумэнтаў, упісаных у кнігі гродзкіх судоў, конструкцыі копнага суда не далося-б перакінуць навет на некалькі стагодзьдзяў у зад. Трэба памятаць, што копныя суды былі ўстановай звычаёвага права. Характэрнай-жа рысай звычаю ёсьць яго сталасьць, эвэнтуальна вельмі памальная зьменнасьць. Уся

*) Даўнейшыя гродзкія суды ў Беларусі ня маюць нічога супольнага з сучаснымі гродзкімі судамі, бо разглядалі толькі найважнейшыя каральныя справы, не падлягаючыя цяперашнім польскім гродзкім судом.

моц і значэньне звычаю дык-жэ фундуецца на яго сталасьці. У гэтым сэнсе звычаёвае права наагул ёсьць вельмі консэрватыўным, неахвотным да ўсялякіх навет невялічкіх навінаў. Дзеля таго копныя суды, апіраючыся на звычай, былі ўстановаю, асабліва з гледзішча іх арганізацыі й судаводзтва, глыбака консэрватыўнаю, на працягу вякоў, калі й падлягаючай, дык толькі невялічкім зьменам. Дык абраз копнага суду XVI ст., намаляваны на аснове захаваных дакумэнтаў, будзе запраўдным адбіцьцём, прынамся ў галоўных нарысах копнага суду з ранейшых стагодзьдзяў яго існаваньня.

Менаваная Віленская Археографічная Комісія зьбіраючы акты аб копных судох, перагледзіла актавыя кнігі наступных гродзкіх судоў: берасьцейскага, віленскага, вілкамірскага, ваўкавыскага, горадзенскага, ковенскага, лідзкага, менскага, мозырскага, наваградзкага, пінскага, расіенскага, слонімскага, слуцкага, троцкага й упіцкага за 1560—1699 г. Пры гэтым найбольш дакумэнтаў аб копных судох далі кнігі судоў — берасьцейскага, менскага, пінскага, слонімскага й слуцкага гродзкіх судоў, меней — кнігі віленскага, ваўкавыскага, горадзенскага, лідзкага, мозырскага, наваградзкага й троцкага. Зусім ня знойдзена актаў аб копных судох у кнігах расіенскага, ковенскага, упіцкага й вілкамерскага гродзкіх судоў. Факт гэты сьведчыць аб тым, што копныя суды былі пашыраныя на тэрыторыі этнографічнае Беларусі і зусім не існавалі на тэрыторыі этнографічнае Літвы. З беларускіх паветаў найменш дахавалася копных актаў з Горадзеншчыны, а гэта дзеля таго, што актавыя кнігі горадзенскага гродзкага суду пераважна загінулі. Ня гледзячы на гэта копныя суды на тэрыторыі Горадзеншчыны былі густа пашыраныя, аб чым сьведчыць хоцьбы той факт, што навет у горадзенскіх земскіх актах *) мы сустракаем шмат актаў, датычучых копных судоў, дзе гэтыя акты не павінны былі зьмяшчацца, бо земскі суд быў судам цывільным.

Пералічаныя вышэй гродзкія суды на тэрыторыі этнографічнае Беларусі абыймаюць толькі заходнюю й цэнтральную Беларусь. Ёсьць, аднак, пэўныя дадзеныя, каторыя прамаўляюць за тым, што копныя суды былі пашыраныя і ў усходняй Беларусі. Але, бязумоўна, установа гэта ў усходняй Беларусі **) вымерла шмат раней, чымся ў заходняй і цэнтральнай.

Як было сказана вышэй, копныя суды ня былі ведамы

*) Акты горадзенскага земскага суду.

**) Пад „Усходняй Беларусяй" разумею Смаленшчыну й Браншчыну.

а ні польскаму а ні маскоўскаму праву. Той-жа факт, што ў вактавых кнігах вілкамерскага, упіцкага, расіенскага й ковенскага гродзкіх судоў няма зусім актаў, датычучых копных судоў, прамаўляе за тым, што й на тэрыторыі Жмудзі (цяперашняе Літвы) копныя суды не існавалі. Праўда, ёсьць адзін дакумэнт, зьмешчаны ў вактавай кнізе расіенскага земскага суду за 1586 г., пісаны ў беларускай мове, а паходзячы з 1585 г., каторы сьведчыць аб спорадычным прыпадку копнага суду ў цэнтры Жмудзі. Прыпадак гэты аднак, зусім адзінокі і ня можа зьмяніць асноўнае тэзы неіснаваньня копных судоў у этнографічнай Літве. Затое ведама ёсьць установа копных судоў праву Заходняе Ўкраіны, асабліва яе паўночнай частцы. Трэба аднак сказаць, што ўстанова копных судоў на Ўкраіне зьяўляецца гэтак сама недасьледаванай як і ў нас. Дзеля гэтага цяжка рабіць якія колечы прыраўнаньні між копнымі судамі на Ўкраіне й Беларусі. У кожным прыпадку ўстанова копных судоў на Ўкраіне мела характар чыста лёкальны, тады як у этнографічнай Беларусі копныя суды былі ўстановай агульнай. Дзеля таго копныя суды на Ўкраіне могуць быць выясьнены як рефлекс адпаведных адносінаў на Беларусі.

Калі паўсталі і скуль выводзілі свой пачатак копныя суды ў Беларусі? Выясьненьне гэтага пытаньня мае асаблівую вагу дзеля пазнаньня сутнасьці старадаўнае беларускае культуры. Бо калі копныя суды былі зьявішчам самародным у культурным жыцьцю беларускага народу, незалежным ад вонкавых уплываў, тады былі-б яны зыркім довадам на карысьць тае тэзы, што культурнае жыцьцё Беларусі зьяўлялася ня толькі накшым за жыцьцё яго суседзяў і моцным у гэтай накшасьці; што патрапляла паклікаць да жыцьця ўстановы самастойныя, што існавалі стагодзьдзі і згулялі вялізарную ролю. Пераходзячы да разгляду гэтага пытаньня трэба адразу зацеміць, што, на жаль, ані ў беларускіх летапісцах ані ў іншых дакумэнтах мы не знаходзім дадзеных, каторыя-б выясьнялі ня то што паходжаньне, але навет час паўстаньня копных судоў. Можна толькі цьвердзіць, што пачатак копных судоў хаваецца ў глыбокай даўнасьці. Дзеля таго што ўстанова копных судоў зьяўляецца ня ведамай маскоўскаму, польскаму й жмудзкаму праву, немагчыма шукаць там пачаткаў гэтае інстытуцыі. Можна толькі прычыны паўстаньня копных судоў бачыць у уплыве ўкраінскага права або разглядаць копныя суды як самародную беларускую ўстанову. Адпаведна да гэтае альтэрнатывы існуюць дзьве тэорыі, выясьняючыя паўстаньне копных судоў, з якіх адна выводзе іх ад даўнейшага народнага суду „Рускае Праўды“,

а другая — ад старадаўнага беларускага веча. Разгледзім па чарзе гэтыя дзьве тэорыі.

Тэорыю, што выводзе копныя суды з народных судоў „Рускае Праўды“ прадстаўляюць тыя расейскія вучоныя каторыя стаяць на становішчу „адзінае (суцэльнае) рускае культуры“. Зьвязаць між сабой якім колечы спосабам культурныя праявы на Украіне, Беларусі і Маскве, і стварыць з іх адну цэласьць, было іх найважнейшым заданьнем. Дасканальны абраз гэтага імкненьня мы й бачым у будове тэорыі копных судоў, выясьняючай паходжаньне іх ад народных судоў „Рускае Праўды“. Цесную сувязь між гэтымі ўстановамі мае выясьніць супольнасьць некаторых тэрмінаў, ужываных у судаводзтве копных і народных судоў. Паіменна, тэрмінам: *муж*, *ліцэ*, *сьлед*, *послух*, *рота*, *свод*, *отсочыць* — ужываным у судаводзтве народных судоў маюць адпавядаць наступныя тэрміны, ужываныя ў судаводзтве копных судоў: *муж*, *ліцэ*, *сьлед* *перасълух*, *прысяжны ліст*, *заводца*, *сачыць*. Аднак апрача першых трох тэрмінаў: *муж*, *ліцэ*, *сълед*, ужываных запраўды ў судаводзтве абодвых судаў, засталыя або не паходзілі ад супольных каранёў як прыкладам „*рота*“ і „*прысяжны ліст*“ (хоць абодвы азначалі прысягу) або значаньне юрыдычнае мелі зусім накшае. Гэтак тэрмін „*послух*“ азначаў сьведку, г. ё. асобу, каторая штось ведала аб праступку, тэрмін-жа „*перaслух*“ азначаў той мамэнт у працэсе копных судоў, калі справа, дзякуючы нявыкрыцьцю вінаватых, адкладалася да часу выяўленьня сьлядоў яго шляхамі слухаў, апавяданьняў і г. д. Тэрмін „*свод*“ паводле народных судоў „Рускае Праўды“ азначаў конфронтацыю вінаватага з тэй асобай, ад каторай ён атрымаў крадзеную рэч, тэрмін-жа „*заводца*“, ужываны ў судаводзтве копных судоў, азначаў тую асобу, ад каторай наагул паходзіла крадзеная рэч. Урэшце, тэрмін „*адсачыць*“ паводле „Рускае Праўды“ азначаў адвесьці ад сябе падозрэньне, сьлед, тэрмін-жа „*сачыць*“ у кожным працэсе быў раўназначны слову шукаць. Як бачым, апрача тэрмінаў *муж*, *ліцэ* (крадзеная рэч) і *сълед*, засталыя мелі зусім накшае значаньне і дзеля гэтага цяжка навет дапусьціць, каб з разгледжаных тэрмінаў народных судоў „Рускае Праўды“ выводзілі свой пачатак менаваныя і быццам маючыя ім адпавядаць тэрміны копных судоў. Апіраць-жа гіпотэзу паходжаньня копных судоў ад народных судоў „Рускае Праўды“ на факце, што ў судаводзтве ўжываліся супольныя тэрміны *муж*, *ліцэ*, *сълед*, ведамыя кожнай славянскай мове, зьяўляецца вельмі рызыкоўным. Незалежна ад гэтага трудна дапусьціць, каб „Руская Праўда“ мела які колечы агулам уплыў на хвармаваньанн-

не беларускага звычаёвага права, праяваю каторага былі копныя суды.

„Руская Праўда“, як памятка пісанага ўкраінскага права, магла быць выкарыстана пры ўкладаньню беларускага пісанага права як прыкладам Літоўскага Статуту, але ніколі не магла выклікаць глыбейшых зьменаў, у разьвіцьці беларускага звычаёвага права, уся моц каторага з натуры самога паняцьця звычаю, фундавалася на собскай традыцыі. З разгледжаных прычынаў тэорыя наладжаньня копных судоў ад даўнейшых народных судоў „Рускае Праўды“ павінна быць адкінена.

Тэорыя, што шукае пачаткаў копных судоў у старадаўным беларускім вечу, мае глыбокія навуковыя асновы і выясьняе добра ня толькі сам працэс хвармаваньня копных судоў, але й іх юрыдычную конструкцыю. Гэтая тэорыя дае нам вычэрпуючы адказ на пытаньне, якім спосабам, шляхам якога працэсу ладная частка судовае ўлады засталася пры тых народных зборках, якімі былі копныя суды, што існавалі да другой паловы XVIII ст. Над разглядам гэтага пытаньня мы ў першую чаргу й спынімся.

Як ведама з гісторыі, найдаўнейшай грамадзкой хвормай беларускага народнага жыцьця было веча, каторае на пачатку свайго існаваньня мела ўсю паўніню ўлады, г. зн. ужываючы цяперашнія тэрміны, — уладу правадаўчую, спаўняючую й судовую. У шматвяковым працэсе барацьбы князёў з вечам, першыя паступова адваявалі сабе ад веча ўладу спаўняючую, правадаўчую й судовую ў найважнейшых справах, датычучых інтарэсаў гаспадарства або князя. На працягу гэтае барацьбы паступова компэтэнцыя веча зьмяншалася, але ня зьнікала. З тэй-жа часінай, калі ў руках яго засталася толькі судовая ўлада, абмежаваная вылучна да рэгуляваньня паўставалых у штодзенным жыцьці між асобнымі адзінкамі канфліктаў, — веча ня толькі перастала быць небясьпечным і шкодным для ўлады князя, але наадварот, сталася для яе вельмі пажаданай і карыснай установай. У гэтай хворме, народныя зборкі, пазбаўленыя палітычных тэндэнцыяў даўнейшага веча, зрабіліся адным з найвялікшых дзейнікаў, у сэнсе ўзмацненьня і падтрыманьня маральных асноваў у народзе.

Гэтыя народныя зборкі сталіся запраўдным „хуткім, справядлівым і сьвятым“ *) народным судам. Ясна, што ў інтарэсах князёў не ляжала барацьба з гэтымі народнымі зборкамі (ці інакш копнымі судамі) але ўсебаковае іх пад-

---

*) Гэтак зваўся копны суд у народзе.

трыманьне. І дзеля таго, дзякуючы свайму вялікаму моральнаму аўтарытэту з аднаго боку і падтрыманьню князёў з другога — копныя суды хутка перакінуліся з местаў, дзе яны перш за ўсё паўсталі (бо ў местах было веча), на сяло і ахапілі сваёй дзейнасьцю ўсю этнографічную Беларусь. Заслугуе на ўвагу факт нязвычайнае сілы й жывучасьці беларускага старадаўнага веча, каторае не загінула бязсьледна як у іншых народаў, а ў першую чаргу ў нашых суседзяў, але перарадзілася ў установу, што згуляла вялізарную ролю і пры гэтым пазытыўную ў культурным жыцьці беларускага народу, сходзячы канчальна з гістарычнае сцэны толькі ў другой палове XVIII стаг. На карысьць тэорыі паходжаньня копных судоў ад веча прамаўляе яшчэ пасярэдне наступны аргумэнт. Як пабачым ніжэй, копныя суды, хоць і былі, з гледзішча іх складу, інстытуцыяй усестановай, аднак, дзякуючы сваёй лічбавой перавазе, рашаючае значэньне ў іх мелі ў мястох — мяшчане, на вёсках — сяляне.

Гісторыя-ж нас вуча, што эволюцыя праўнага становішча ніжэйшых станаў ішла ў кірунку абмяжаваньня іх правоў а не пашыраньня. Дзеля гэтага з цэлай пэўнасьцю можна казаць, што копныя суды ня былі ўстановай ad hoc створанай і накіненай ніжэйшым станам, установай, каторая ладне пашырала іх правы. Копныя суды былі бязумоўна раней установаю шмат шыршаю, пазьней-жа іх компэтэнцыя звузілася на карысьць князя і вышшых клясаў.

Па гэтых уступных увагах пярэйдзем да разгляду конструкцыі копнага суду і яго судаводзтва.

(Працяг будзе).

Я. С.

# Навуковая праца.

Перад вайною беларускія адраджэнцы яшчэ толькі лятуцелі аб стварэньню беларускае навукі. Праўда, ужэ й тады была беларуская навука. Прыкладам: гісторычныя працы беларускія Беларуса, проф. М. Даўнара-Запольскага. Але тады беларускія працы навуковыя былі апраненыя ў чужую вопратку, выходзілі ў чужых мовах, дык на'т сьвядомыя Беларусы мусілі ў кожным асобным прыпадку даведывацца аб іх беларушчыні. А чужнікі проста залічалі таковыя працы да навукі небеларускае. Апрача таго вучоныя Беларусы таго часу, будучы залежнымі ад чужых выдавецтваў або зьвязаныя сваім службовым палажэньням, далёка не заўсёды

маглі ясна выказаваць свае навуковыя пагляды. Дзеля таго даваенная беларуская навука мела шмат заганаў і часта ня добра выпаўняла свае заданьні ў вадносінах да беларускага народу.

Аднак даволі было колькіх год некаторае толеранцыі, невялічкае палёгкі ў культурным жыцьцю беларускім, каб ужэ *пабеларуску* стварылася ладная навука беларуская. Найвялікшы развой гэтае навукі прыпадае ў Радавай Беларусі прыблізна на 1924—28 г.г., калі тамака шмат пішуць і ладне друкуюць. Стварэньне за такі кароткі час ладнае па колькасьці ды добрае беларускае навукі паказуе, якія вялікія потэнцыяльныя сілы схаваныя ў беларускім народзе і ў беларускім русе.

У вапошнія гады з прычыны перасьледаваньня Маскоўцамі беларускага руху і высланьня ў Маскоўшчыну беларускіх наўчоных беларуская праца навуковая ў Радавай Беларусі шмат зьменшылася.

У Заходняй Беларусі дагэтуль былі адно спробы беларускае навукі. Вельмі мала хто піша тутака навуковыя працы, а яшчэ меней іх друкуюць. Галоўная прычына гэтага — надзвычайна цяжкія варункі жыцьця й працы Беларусам у Зах. Беларусі. Але ё й іншыя прычыны. Важнаю прычынаю ё тое, што ажно да нядаўнага часу ніхто ў нас ня рупіўся аб арганізаваньню беларускае навуковае працы.

Адылі рупнасьць ужэ пачалася. Довадам гэтага ё арганізаваныя „Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы“ пры Віленскім У-це. Можна спадзявацца, што значэньне гэтага Т-ва дзеля беларускае навукі будзе не малое.

Трэба зацеміць, што популярна - навуковыя рэфэраты, чытаныя ў „Беларускім Інстытуце Гаспадаркі й Культуры“ і ў „Беларускім Навуковым Т-ве“ прычыняюцца да зацікаўленьня беларускай навукаю.

За кароткі час у „Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы“ было прачытана колькі рэфэратаў, маючых важнае навуковае значэньне. На некаторых з іх я гэтта задзержуся.

**Беларускія народныя песьні, запісаныя грам. Р. Шырмаю.** 24 студня сёлета грам. Рыгор Шырма прачытаў ў „Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы“ рэфэрат на тэму: „Галоўныя рысы мэлёдыяў беларускіх народных песьняў“. Лектар у сваім рэфэраце расказаў аб забраных ім песьнях, дзелячыся із слухачамі доймамі (ўражаньнямі), перажытымі ў часе іх запісаваньня, ды даў спробу характарыстыкі мэлёдыяў, запісаных ім цыклаў беларускіх народных песьняў. Характарызуючы мэлёдыі асобных цыклаў песьняў, лектар адначасна дэмонстраваў іх пяпьцём і граньнем на йскрып-

цы. Слухачы із захапленьням, затаіўшы дух, выслухалі цікаўны рэфэрат.

Грам. Р. Шырма запісаў песьні ў розных мясцовасьцях Заходняе Беларусі — у паветах: Дзісенскім, Вялейскім, Маладэчанскім, Віленска-Троцкім, Лідзкім, Горадзенскім, Сакольскім, Беластоцкім, Ваўкавыскім, Слонімскім, Косаўскім і Пружанскім. Усяго ён запісаў звыш тысяча тэкстаў песьняў і каля 300 мэлёдыяў. Дзеля якасьці й колькасьці мэлёдыяў і тэкстаў гэта ё адзін з найважнейшых збораў беларускіх народных песьняў.

Паміж запісанымі Р. Шырмаю песьнямі з нотамі ё й дагэтуль мала ведамыя цыклы, як песьні пiліпаўскія, вялікапосныя і колькі песьняў пабожных. Апошнія — ў XVII — XVIII ст. — былі ўтвораныя беларускімі поэтамі, потым пайшлі ў народ і там захаваліся дагэтуль.

Праца Шырмава — гэта кладзеньне подрубаў пад навуку аб беларускай народнай поэзіі, музыцы, псыхолёгіі беларускага народу і яго этнографіі.

Няўжо-ж самі Беларусы не здабудуцца на выданьне гэтага вялікага багацьця?

## Гаспадарочак сьлічны паночак.

(Валачобная).

Ад Ганны Гаўрылічанкі м. Куранец, Вялейскага пав.




*Гаспадарочак, сьлічны паночак,*
*Хрыстос ускрос Сын Божы,* *)
*Чаго сьпіш, ляжыш, вылягаешся,*
*З сваёй жоначкай абымаешся?*

*) „Хрыстос ускрос Сын Божы“ паўтараецца па кожным радку.

*Устань раненька, вымыйся беленька,*
*Вазьмі ліхтарок, ідзі у хлявок!*
*У твaiм хляве праява стала,*
*Праява стала — праявілася,*
*Восем каровак ацялілася,*
*Яшчэ толькі пазначылася.*
*Вазьмі сьвечачку, ідзі ў клетачку,*
*Ідзі ў клетачку памаленечку,*
*Памаленечку па гарэлачку,*
*Гарэлку на стол, госьцікаў за стол,*
*А мы госьцікі не хаджалыя,*
*Толькі ў гадок адзін разок.*

---

*Ой лятуць, лятуць два галубочкі,*
*Ой нясуць, нясуць два жалудочкі*
*Адзін галубок кінуў жалудок,*
*Ды кінуў ён пасярод двара,*
*Пасярод двара маладога Пятра.*
*І вырас дубок тонак, высок,*
*З пад таго дубка узыйшла зорка,*
*З пад той зорачкі ўзыйшлі зьвездачкі*
*Ёсьць той дубок Іванка сынок,*
*Ёсьць тая зорка яго жонка,*
*Ясныя зьвезды яго дзеці.*

---

*Ляцела пава размавістая,*
*Пусьціла пер'е пазлацістае.*
*Выйшла, выбегла красна паненка,*
*Красна паненка малада Галенка.*
*Хусту разаслала, пер'е пазьбірала.*
*Як пайшла яна ды дарогаю,*
*Ды дарогаю, ды шырокаю,*
*Нагнала яна ды трох кавалёў.*
*„Вы, кавальчыкі, мае брацеткі,*
*„Скуйце ды зьвійце мне тры вяночкі.*
*„Адзін вянок з руты мяты,*

*„Други вянок з чырвонай рожы,*
*„Трэці вяночак з пад'яленчыку.*
*„З руты-мяты — у шлюб стаці,*
*„З чырвонай рожы — на пасад сесьці;*
*„З пад'яленчыку — к сьвякроўцы ехаць.*

## Ходзіць пава па вуліцы.

(Валачобная).

Ад Маркоўскай з в. Драглі, Каменькаўскае вол., Сакольскага павету.




*Ходзіць пава па вуліцы,*
*Гэй віно *),*
*Сьцеле пёры па мураўцы.*
*А за ёю красна панна,*
*Красна панна, млода Ганна,*
*Пёры бярэ ў хвартух кладзе,*
*А з хвартушка вянец віе;*
*Зьвіўшы вянец, пашла ў танец,*
*Скуль-жа ўзяўся буйны вецер,*
*Зьвеяў з панны павін' вянец,*
*Ды завеяў у быстры Дунай.*
*Пайшла панна беражэчкам.*
*Беражэчкам за вяночкам,*
*Напаткала тры малойцы,*
*Дый усе тры рыбалоўцы:*

---

*) „Гэй віно" паўтараецца па кожным радку.

*— „Ах мае вы, малойчыкі,*
*Дый ўсе тры рыбалоўцы,*
*Ой, закінце сеці — невад,*
*Ды злапайце павін вянец,*
*Дый злапайце мне аддайце.*
*— „Што-ж нам, панна, за дар дасі?*
*— „А старшаму павін вянец*
*— „А другому злоты персьцень,*
*„А трэцяму сама млода,*
*— „Сама млода, як ягода,*
*— „Як ягадка барвавая,*
*— „Як вішанька садавая.*

---

СТ. СТАНКЕВІЧ.

# Монографія аб В. Дуніну-Марцінкевічу.

**Józef Gołąbek — Wincenty Dunin-Marcinkiewicz** — poeta polsko-białoruski, Wilno 1932, str. 142, 8o, Wydawnictwa Towarzystwa Pomocy Naukowej im. E. E. Wróblewskich.

Пад такім назовам выйшла сёлета ў Вільні кніжка Язэпа Галомбка, польскага дасьледчыка беларускае літаратуры XIX ст., ведамага з папярэдніх працаў: „Dziady białoruskie“ („Lud“ Serja II, t. IV, Lwów 1925) і „Początki dramatu białoruskiego“ („Życie teatru“, Warszawa 1925). Кніжка Галомбкава, як першая монографічнага характару праца аб Марцінкевічу, вымагае шырэйшага агляду, але, з прычыны вельмі агранічанага месца ў нашым часапісе, зьвернем увагу на важнейшыя толькі мамэнты.

Перад тым, як выкажам агульную ацэну менаванае працы аб Марцінкевічу, пастараемся коратка спыніцца на асобных яе разьдзелах і падчыркнуць усё тое, што найбольш нам кідаецца ў вочы. На вялікую ўвагу заслугуе першы разьдзел працы, у каторым аўтар, рысуючы агульны абраз Марцінкевічаўскай эпохі, дае кароценькі агляд ня толькі беларускіх, але й сучасных польскіх поэтаў, у творчасьці каторых выступаюць беларускія элемэнты, а так-жа

зварочуе належную ўвагу на беларускае пытаньне ў польскай навуковай літаратуры дадзенае пары. Гэтых апошніх поэтаў, пачынаючы іх агляд ад А. Міцкевіча, дзеля іх арганічнае сувязі з беларускім краем і галоўным матывам іхняе творчасьці, адносіць аўтар да т. зв. школы беларускае ў польскай романтычнай літаратуры. Дзеля таго, што аўтар, апіраючыся на драбнейшых працах і зацемках іншых дасьледчыкаў, папрабаваў даць цэласьць т. зв. беларускае школы ў польскай романтычнай літаратуры і выказаць яе значэньне ў разьвіцьці беларускага пісьменства першае палавіны XIX ст., — разьдзел гэты меў-бы вялікае значэньне. Але нажаль — аўтар ня зусім вычарпаў цікавы матар'ял, праходзячы моўчкі каля некаторых пісьменьнікаў, якіх таксама трэба было-б залічыць да гэтае школы.

Я. Галомбак, падчыркуючы на 29 балонцы свае працы, што затрымлюецца толькі на тых польскіх пісьменьніках, якія сваёй творчасьцю прычыніліся да разьвіцьця маладой беларускай літаратуры і ў творах каторых праявіліся мясцовыя беларускія элемэнты, а ні словам ня ўспомніў аб такіх пісьменьніках, як Ад. Плуг і іншыя, творы якіх носяць на сабе выразны беларускі характар. Далей, кажучы аб тых дзейніках, што выклікалі зацікаўленьне краёвае інтэлігенцыі да Беларусі і прычыніліся да яго шыршага развою, аўтар амаль зусім не ўспамінае аб ролі, якую адыграў у гэтым кірунку Віленскі Ўнівэрсытэт у першай чэцьверці XIX ст. А ведаем, што значэньне Віленскага Ўнівэрсытэту наагул і дзейнасьці згуртаваных у ім студэнскіх арганізацыяў — філёматаў і філярэтаў — у разьвіцьці зацікаўленьня нашым краем было вялікае. Бо-ж галоўныя прадстаўнікі разгляданай Галомбкам беларускай літаратурнай школы, як і навукова-грамадзкія дзеячы, каторыя палажылі першыя асновы пад адраджэньне беларускае культуры, — выйшлі ў большай часьці з муроў Віленскага Ўнівэрсытэту. Вялікае значэньне Віленскага Ўнівэрсытэту для беларускага адраджэнскага руху моцна падчыркуюць проф. У. Ігнатоўскі ў сваёй працы „Кароткі нарыс Гісторыі Беларусі XIX і пачатку XX ст.“, а так-жа І. Цьвікевіч у кнізе „Адраджэньне Беларусі і Польшча“.

У другім разьдзеле аўтар, апіраючыся на рукапіснай біографіі Марцінкевіча, напісанай А. Ельскім, дае абраз жыцьця і літаратурнае дзейнасьці нашага пісьменьніка. Абраз гэты даволі кароткі. Аўтар абмяжоўваецца да падаваньня сухіх фактаў з жыцьця пісьменьніка, не стараючыся павязаць іх у вадну псыхолёгічную цэласьць, ня ўнікаючы глыбей у яго духовыя перажываньні, каторыя маюць перша-

раднае значэньне ў выясьненьні жаролаў творчасьці кожнага поэты. У дададзенай на канцы разьдзелу бібліографіі твораў Марцінкевічавых, аўтар ня ўспомніў аб нядаўна адшуканых у Савецкай Беларусі двух яго творах, аб каторых успамінаецца ў вадным з сшыткоў менскага „Полымя“ ды ў часапісе „Slawische Rundschau“ (Iabrg. I., № 5, 1929, бал. 405—406).

Тры наступныя разьдзелы працы аўтар пасьвячае літаратурнай творчасьці Марцінкевічавай. Наўперад спыняецца над тымі творамі нашага поэты, што напісаны папольску. Прааналізаваўшы дробныя вершы і большыя творы, пісаныя Марцінкевічам у польскай мове, аўтар прыходзе да правільнага выводу, што творы гэтыя зьяўляюцца вельмі слабымі і ня маюць большае літаратурнае вартасьці, так што літаратурную славу асягнуў Марцінкевіч толькі дзякуючы творам беларускім.

У далейшым прыступае аўтар да разгляду драматычных твораў Марцінкевічавых, пасьвячаючы ім разьдзел чацьверты працы. Коратка затрымаўшыся над дзьвюма драмамі, напісанымі папольску — „Niespodzianka dla mistrzyni“ і „Obłąkany“, літаратурная вартасьць каторых, як і ўсіх яго твораў польскіх, малая, больш пасьвячае ўвагі „Сялянцы“, „Пінскай Шляхце“ і „Залётам“, якія зьўляюцца праўдзівымі пэрламі беларускае драматургіі XIX ст. Апрача даволі глыбокае аналізы гэтых драмаў у лік заслугаў аўтара трэба залічыць і тое, што ён першы зьвярнуў належную ўвагу на іх залежнасьць ад чужых уплываў: „Пінскай шляхты“ ад „Sarmatyzmu“ Заблоцкага, а „Залётаў“ ad „Le bourgeois gentilhomme“, „L'avare“ і іншых несьмяротных камэдыяў Мольеравых. Трапны вывад Галомбка, што Марцінкевіч, як драматург, пішучы наўперад камэдыі, выказаў даволі вялікія літаратурныя здольнасьці і сваёй „Сялянкай“ пачаў разьвіцьцё беларускае драматургіі, дадае тым большую вартасьць гэтаму разьдзелу ягонае працы.

У пятым разьдзеле разглядае аўтар поэмы Марцінкевічавы: „Гапон“, „Вечарніцы“, „Купалла“, „Шчараўскія дажынкі“ ды ягоны пераклад на беларускую мову „Пана Тадэуша“ А. Міцкевіча. Наўперад задзержуецца аўтар над прыпісываным пяру Марцінкевіча вершам „Вясна голад перапала“. Апіраючыся на тым, што социяльна востры характар гэтага вершу стаіць у супярэчнасьці з ідылічна-сэнтымэнтальным падходам аўтара да разьвязкі социяльных проблемаў, а так-жа з яго паглядамі на сялянства й шляхту, прыходзе да цікавага і хіба не пазбаўленага праўды вываду, што Марцінкевіч ня быў аўтарам гэтага вершу. Пры

разглядзе менаваных поэмаў Марцінкевічавых, добра названых сялянкамі, Галомбак спыняецца даволі драбязна над іх зьместам, праводзячы вельмі ўдалую аналізу людзкіх характараў і ўмела выказуючы галоўныя матывы твору. Гэтак належна выказаны элемэнт абрадавы некаторых твораў, іх народны падклад, рэалістычная абрысоўка беларускага быту, сьветапагляд селяніна і яго вера ў сьвет надпрыродны ды напасьледак зварот да беларускае мінуўшчыні, як гэта зрабіў Марцінкевіч згодна з романтычнымі постулятамі ў „Стаўроўскіх Дзядох". Такім спосабам, дзякуючы глыбокай і ўдалай аналізе зьместу і асобных матываў твору, гэты разьдзел, як і папярэдні, належыць да найлепшых.

У разьдзеле шостым свае працы, дае аўтар агульны агляд поэтыкі Марцінкевічавае; задзержуецца над спосабам характарыстыкі асобаў, над апісаньнем прыроды, ужываньнем асобных стылістычных зваротаў, ды напасьледак коратка аналізуе вонкавую будову вершу Марцінкевічавага. Адразу трэба зацеміць, што пакольні ў аналізаваньні фабулы твору і вышуківаньні яе жаролаў мае Галомбак ладныя здольнасьці, як гэта ўжо зацемлена вышэй, патолькі ў галіне эстэтычнага падходу да твору сказаць гэтага аб аўтару ня можна. І ягоны агляд поэтыкі Марцінкевічавае даволі сухі й павярхоўны, не дае нам дакладнага прадстаўленьня ўсяго таго хараства й тэхнічнае дасканальнасьці, якое адчуваем пры чытаньні твораў Марцінкевічавых.

Але тут яшчэ адна справа. Ці варта было пры разглядзе асобных твораў Марцінкевічавых, якім пасьвяціў аўтар аж тры разьдзелы свае працы, уводзіць асобны разьдзел для характарыстыкі яго здабыткаў артыстычных. На наш пагляд — няварта. Такія мамэнты, як артыстычныя асаблівасьці твору павінны закранацца ў цеснай лучнасьці з аглядам самых твораў. У такім прыпадку праца ані ня страціць свае вартасьці, але многа здабудзе, бо маючы перад вачыма поэтыцкі твор у цэласьці і разглядаючы ўсе іншыя яго асаблівасьці, лепей будзе вылавіць мамэнты чыста артыстычнага характару і вызначыць іхную ролю ў творы. Ды ў рэшце і сучасная мэтода літаратурных працаў прамаўляе скарэй за гэтакім, а ня іншым, раскладам матар'ялу.

Два апошнія разьдзелы працы пасьвячае Галомбак пытаньню нацыянальнасьці, соцыяльных паглядаў Марцінкевіча і яго значэньня ў беларускай літаратуры. Аўтар бяручы пад увагу ўсё тое, што сказана дасюль на гэтую тэму, і апіраючыся галоўна на прызнаньні самога пісьменьніка, правільна сьцьвярджае, што з гледзішча соцыяльных переканаьняў спосаб думаньня Марцінкевіча — консэрватыўны

з ладнаю прымешкаю дэмократызму, а паводле нацыянальнае прыналежнасьці быў ён Беларусам. Сьцьвярджае Галомбак на 121 бал. свае працы, што „Марцінкевіч ня прыпадкова, але з поўнай сьвядомасьцю выступаў як поэта беларускі, выдзяляючыся гэткім спосабам з літаратуры польскай. Гэтае-ж сьвядомае імкненьне ўнезалежніцца ёсьць здаваляючай падставай, каб у васобе Марцінкевіча прызнаць беларускага поэта".

Прызнаючы вялікую правільнасьць Галомбку ў яго об'ектыўным устанаўленьні нацыянальнасьці Марцінкевіча, ні ў якім прыпадку ня можна згадзіцца з яго азначэньнем нашага пісьменьніка славамі „poeta polsko-białoruski", як гэта бачым у назове працы. Нашто тут прыкметнік „польскі"? Бо-ж тое, што Марцінкевіч ладне сваіх твораў меншае вартасьці напісаў папольску, не дае жаднае падставы, каб назваць яго поэтам „polsko-białoruskim", як гэта сьцьвярджае і сам Галомбак у перадапошнім разьдзеле свае працы і такім спосабам уходзіць у супярэчнасьць з самым сабою. Пры ўсёй об'ектыўнасьці Галомбка і дабрародным яго падходзе да беларускае літаратуры першай паловы XIX ст., у якой, ня ўпрыклад іншым польскім вучоным, відзіць самародную беларускую плынь, гэты адзіны зварот, трэба прызнаць, уносіць вялікі дысонанс у ягоную працу.

Падчыркнуўшы вышэй некаторыя дадатнія й ад'емныя бакі працы Галомбкавае аб Марцінкевічу, мусім спыніцца над адным агульным мінусам, якім ёсьць вялікая нястача самадзейнасьці аўтара і бяскрытычны падход да існуючага матар'ялу. У працы мы знаходзім на кожнай балонцы мноства цытатаў і выпіскаў з тэксту чужых працаў аб Марцінкевічу, сярод якіх губляецца й собская думка аўтарава. З пасярод цытаваных працаў ёсьць, ведама, цэнныя, на каторых варта апірацца, але мноства так-жа й такіх, якія ня выдзержуюць навуковае крытыкі. Дзякуючы такім неразважным і бескрытычным адносінам аўтара да бібліографічнага матар'ялу ён часта паўтарае ў сьлед за іншымі розныя недарэчнасьці і паніжае такім спосабам вартасьць свае працы.

Апраўдаць менаванае да некаторае меры можна адно тым, што праца Галомбкавая ёсьць першай монографіяй аб Марцінкевічу і паважаны наш аўтар прымушаны быў першы ствараць агульны абраз жыцьця й творчасьці нашага поэты.

# Аб Беларусах у чужых мовах.

*D-r J. Stankiewicz.* Czas powstania narodów białoruskiego i ukrainskiego. „Sprawy Narodowościowe“ з 1931 г., № 4—5, бал. 444—453 і № 6, бал. 601 — 612. Менаваны артыкул ёсьць адказам проф. М. Кардубе, каторы ў варт. „Найважнійший момент в історії України“ ў „Літературно-науковим Вістнику“ VI.1930 г. даводзіў, што дзякуючы окупацыі Ўкраіны Літвою ў 2-ой палове XIV ст. паўстаў апрычоны (асобны) украінскі народ ды адначасна чамусьці заявіў, што яшчэ ў палове XVII. ст. ня было апрычонага народу беларускага, што быццам дагэтуль Беларусы належылі да народу ўкраінскага.

Д-р Я. Станкевіч, карыстаючыся гісторычнымі й філёлёгічнымі довадамі й фактамі, зьбіў усе галаслоўныя цьверджаньні проф. М. Кардубы. Проці апошняга д-р Я. Станкевіч паказаў, што:

1) Урадовай і літэратурнай мовай Вялікага Княства Літоўскага быў язык беларускі;

2) Беларусы за Вял. Кн. Літоўскага культурна шмат перавышшалі Ўкраінцаў;

3) Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам беларускім, а Ўкраіна да 1569 г. належыла да гэтага беларускага гаспадарства, а па 1569 г. — да Польшчы;

4) Беларусы заўсёды мелі апрычоны нацыянальны назоў, прычым ад пал. XIV ст. ґэтым назовам быў „Ліцьвін, Літва“ і адно з гледзішча рэлігійнага ўжываўся назоў „Русіны“, абазначаючы тады Беларусаў усходняга абраду (праваслаўных або вуніятаў).

Напасьледак д-р Я. Станкевіч паказаў, што ўтварэньне гісторычнае Літвы ня мела значэньня дзеля паўстаньня апрычоных беларускага й украінскага народаў, бо іхняя апрычонасьць была ўжо пачынаючы з V ст. па нараджэньню Хрыста.

# Нячуваны зьдзек маскоўскіх чорнасоценцаў.

Зьезд праваслаўнага духавенства Віленскае Епархіі сёлета 1 — 3 сакавіка вынес пастанову проці ўвядзеньня беларускага языка ў царкоўным жыцьцю (проповедзях і канцылярыі). Той-жа зьезд у сваёй пастанове проста ня прызнае беларускага языка.

Менаваны зьезд складаўся з благачынных і некаторых іншых сьвяшчэньнікаў, пазваных асабіста віленскім архіяпіскапам Хвядосам. Зьезд гэткі, ведама, запраўды не прадстаўляе праваслаўнага духавенства віленскае эпархіі. Прадстаўляе ён наўперад учасьнікаў зьезду і, пэўне, часьць духавенства не пакліканага на зьезд. Але й гэтага даволі, каб зьвярнуць належную ўвагу на менаваную пастанову зьезду.

Дагэтуль беларускае грамадзянства блізу што не зварочывала жаднае ўвагі на русыфікацыйную дзейнасьць абмаскаленага праваслаўнага духавенства ў нас. Цяпер гэтая пасыўнасьць мусіць скончыцца. Чорная сотня маскоўская абвесьціла беларускаму народу вайну на жыцьцё й сьмерць. Вайну гэтую беларускі народ можа толькі прыняць. Даўно была пара праваслаўным Беларусам яе пачаць, дык пачаткова цяперака, калі непрыяцель ідзе на нас з „дэкрэтам“ сьмерці.

Духавенства кожнага народу ёсьць ягоным прыяцелям і апякуном, але нашае абмаскалелае духавенства адчуралася нашага народу...

Яно ў Заходняй Беларусі жыве з крывавага мазаля беларускага народу і замест працы для гэтага народу „працуе“ на яго згубу. Дык што-ж беларускаму народу астаецца рабіць?

Ці можа наш народ ісьці на духоўную страву да гэтага духавенства, з якой дастае атруту? Ці можа матар'яльна памагаць такому духавенству? Праваслаўная Беларусь павінна ня мець жаднага дзела з варожым Беларусам абмаскаленым духавенствам. Адначасна з гэтым мы павінны рупатліва бараніць сваю праваслаўную веру ад усіх яе і сваіх непрыяцеляў. Мусім так-жа бараніць сваю праваслаўную веру ад абмаскаленага духавенства, каторае ўжо ні раз прадавала справы праваслаўнае царквы. Духавенства, каторае дама-

гаецца згубы свайму народу, ня можа любіць Бога й Царквы Божае. Замест абмаскаленага духавенства праваслаўныя Беларусы павінны дамагацца праваслаўнага духавенства свайго, беларускага.

*Праваслаўны.*

## Културная хроніка.

*Дзень 14-тых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі,* 25 сакавіка, быў сёлета ўрачыста адсьвяткаваны ўсім беларускім грамадзянствам, як у краі так і на чужыне.

*З Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы.* За месяц люты і першую палавіну сакавіка, у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы адбыліся чатыры навуковыя зборкі, на якіх былі прачытаны наступныя рэфэраты: 21.II.32 М. Пяцюкевіча на тэму: „Беларусіка ў віленскіх бібліотэках"; 28.II.32 М. Шкялёнка: „Копныя Суды ў Беларусі"; 6.III.32 Хв. Ільляшэвіча: „Біографія Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага) і 13.III.32 Ст. Станкевіча: „Беларуская народная творчасьць у повесьцях Э. Ожэшковай". У другой палавіне сакавіка і ў красавіку, з прычыны Вялікодніх Сьвятаў, навуковыя зборкі Таварыства не адбываліся.

*З дзейнасьці Бел. Інстыт. Гаспадаркі і Культуры.* Паводле справаздачы Ураду Б. І. Г. і К. на агульным гадавым сходзе 24.IV. г. г., у мінулым годзе арганізацыя мела 52 гурткі з 700 сябрамі, і 36 вясковых бібліатэчак. За цэлы год было прачытана 27 лекцыяў і зладжана 30 спэктакляў. Апрача таго арганізацыя ўтрымліваець на свой кошт прыватную беларускую школу ў Шаўлянах.

*З Бел. Навуковага Т-ва.* За апошні час у салі Віл. Бел. Гімназіі чыталі лекцыі: А. Луцкевіч на тэму: „Крытычныя мамэнты ў жыцьці Купалы і Коласа паводле іх твораў", М. Шкялёнак „Копныя суды ў Беларусі", Д-р М. Чарнэцкі „Кастусь Каліноўскі", і інж. Л. Дубейкоўскі „Аб будаўніцтве з дрэва".

*Ліквідацыя беларускага школьніцтва.* З канцом гэтага школьнага году, польскія школьныя ўлады ліквідуюць дзяржаўную утраквістычную (беларуска-польскую) Вучыцельскую Сэмінарыю ім. Фр. Багушэвіча ў Вільні. Таксама ходзяць чуткі, што мае быць зьліквідаваная прыватная Беларуская Гімназія ў Навагрудку.

*Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва ў Літве.* 28.II ў Коўне адбыўся ўстаноўчы сход „Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве", якое мае на мэце пашырэньне нацыянальнае сьвядомасьці, культуры і асьветы сярод беларускага насяленьня Літвы. У склад ураду Т-ва ўвайшлі: С. Якавюк, Матач, Плескачэўская, Дзядзевіч, Радзюк. 5.V гэтае Т-ва мае адчыніць у Коўне беларускі клюб. Т-ва цяпер мае 55 сяброў.

## Адказы Рэдакцыі.

*Натальлі Арсеньневай.* За прысланыя вершы — шчырая падзяка. Чакаем болей.

*М. Машары.* За вершы і прывітаньні дзякуем. Прысылайце болей.

*М. Васільку.* За прысланае дзякуем. Прысылайце болей.

*Я. Вількоўшчыку.* За пажаданьні для часапісу і прысланые вершы дзякуем. Прысылайце болей. Талент поэтыцкі маеце; працуйце болей над тэхнікай.

*М. Тайфуну.* За прывітаньні дзякуем. Вершы Вашыя слабые. Прабуйце працаваць у гэтым кірунку болей.

*М. Вершыніну.* За памяць аб нас і за сяброўскую складку дзякуем. З прысланага скарыстаць ня можам. Не забывайце аб нас.

*Я. Пятроўскаму.* За пажаданьні для „Нёмна"—падзяка.

*Надыму Беднаму.* За прывітаньне дзякуем. Вершы яшчэ слабыя. Працуйце болей.

*Проф. Б. Врежго.* За пажаданьні шчыра дзякуем. Скарыстаць з Вашай прапазыцыі тымчасам ня маем матар'яльнай магчымасьці.

ГРОШЫ АТРЫМАЛІ: Ад д-ра Я. Станкевіча 50 зал.; гр.гр. Г. Бучынскай, Ад. Будзькі — па 20 зал; гр М. Засіма 4 зал.; Кооп. „Сноп" 2 зал.; М. Букаты 1 зал. 50 гр.; М. Карыткі 1 зал. 40 гр; У Казлоўскага, А. Валчэцкага — па 1 зал. Усім ім шчырая падзяка

*ВЫДАВЕЦТВА.*



Выдавец: Адвард Будзька. Рэдактар: Пётра Сяргіевіч.

Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная вуліца 6—10.